

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№10 (302) ЖНІВЕНЬ 2021 ГОД


ПЕРАСЛЕД

## УЦЁКІ З ХІМІІ

**Палітвязень Дзмітрый Кулакоў распавёў, як уцёк з «хіміі»: «Зайшлі ў найбліжэйшую літоўскую вёску, папрасілі мясцовага жыхара выклікаць памежнікаў. Ён яшчэ ўдакладніў, якіх — беларускіх ці літоўскіх».**

Дзмітрый адбываў пакаранне ў папраўчай установе адкрытага тыпу №49 у Шклове. Яму прысудзілі 3,5 года за паведамленні міліцыянту ў суполцы «Лепель для жыцця». Гэта расцанілі як пагрозу гвалту ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі і абразу прадстаўніка ўлады.

У Дзмітрыя гэта не першая спроба ўцёкаў. Яшчэ пасля суда ў канцы снежня (ён тады не быў пад вартай) мужчына збягаў на літоўскую мяжу. Але яго ўзялі беларускія памежнікі і перадалі раённай міліцыі. Дзмітрыя пасадзілі ў ІЧУ, а на наступны дзень прывезлі на «хімію».

На новыя ўцёкі палітвязень рашыўся 19 ліпеня.

— Гэта быў якраз першы дзень, як я змяніў працу — перавёўся з грузчыка на слесара на камбікормавым заводзе ў Александрыі. За 15 хвілін да абедзеннага перапынку я сказаў, што трэба пайсці памыцца, бо рукі брудныя. А пасля паем і лягу пасплю ў будцы, бо на «хіміі» не высыпаюся.

Спаць, вядома, не клаўся — разабраў тэлефон, адлучыў шлейф ад батарэі, выкінуў сімку. Акуратна паглядзеў па баках, каб мяне ніхто не бачыў, пераскочыў цераз плот і пабег. На працы праз паўтары гадзіны заўважылі, што мяне няма.

Мяжу я перасякаў 31 чысла. А дагэтуль увесь час хаваўся ў Беларусі, бо яны маглі абвесціць план перахопу. Наколькі разумею, спачатку яны кідаюць усе сілы на пошукі, а пасля супакойваюцца і пачынаюць іншыя метады выкарыстоўваць.

Праз іншых людзей мне перадавалі, што жонка нібыта ў вышуку, што яе хочуць экстрадзіраваць у Беларусь (яна з дзецьмі за месяц да гэтага выехала ў Літву) — думалі, можа, я выдам сябе на нервах, зраблю памылку. І мне, і сям'і з'ехаць дапамагла арганізацыя Dapamoga.

Міліцыя шукала мяне дома: прыходзіла па адрасе прапіскі ў Лепель і ў Шуміліна, дзе я жыў. Але нават сваякі не ведалі, дзе я. Хавацца было самым складаным.

Пазней Дзмітрыя звязалі яшчэ з адным уцекачом. 31 ліпеня іх высадзілі недалёка ад мяжы, і праз паўгадзіны мужчыны ўжо былі ў іншай краіне.

— Было хваляванне, бо стаяў дзень. Мы перайшлі мяжу, зайшлі ў найбліжэйшую літоўскую вёску, папрасілі мясцовага жыхара, каб ён выклікаў памежнікаў.

Ён яшчэ ўдакладніў, якіх — беларускіх ці літоўскіх. Падумаў, раптам гэта заблукалі грыбнікі. Мы сказалі, што літоўскіх. Прыехалі памежнікі і забралі нас на заставу, дзе мы правялі шэсць дзён.

Мы здзівіліся таму, што там адбываецца. Мігрантаў было вельмі шмат, больш за 100. У асноўным іракцы і афрыканцы. Нас хацелі да іх у лагер засяліць, сказалі, што больш нідзе месца няма.

Высветлілася, што месцы ёсць, але там матрацаў не было. Для літоўцаў дзіка — як спаць без матрацаў? Я жартую: хлорку не вылівайце, гімн ранкам не ўключайце — і ладна. Мы дапамагалі памежнікам прадукты разгружаць, ложкі рамантаваць, мігрантаў размяшчаць.

Хлопец, які бег са мной, добра ведае ангельскую і французскую мовы, крыху гутарыў з мігрантамі. Некаторыя іракцы расказвалі, што заплацілі за дарогу ад 1000 да 5000 даляраў. Дзяўчына з Афрыкі 12 тысяч заплаціла.

Ім у турагенцтве далі зразумець, што калі вы трапіце ў Літву з Беларусі, там дзве гадзіны зойме афармленне, подпіс паставіць, а пасля вам купяць квіток да Германіі.

Увялі ў зман, і яны паверылі. Усе без дакументаў — хто пакінуў пашпарт у гатэлі, хто выкінуў. Шмат дзяцей, грудных у тым ліку. Мой таварыш дапамагаў мігрантам звязацца з сем'ямі: яны пісалі на паперы пасланні, ён фатаграфаў іх і дасылаў сваякам. Некалькі сутак пасля не давалі спакою, званілі.

Дзмітрый чуў, што на хіміі пасля яго ўцёкаў крыху адпусцілі гайкі. Ён распавядае, што большасць вязняў у Шклове адпраўляюць праваць у калгасы. Некаторых бяруць прыватныя фірмы па перапрацоўцы другаснай сыравіны, хтосьці разгружае склады ў раёных таварыстві спажыўцоў. Сам Дзмітрый да пераводу на камбінат працаваў на пілараме.

— Заробкі — 500-600 рублёў у лепшым выпадку. Гэта калі ў цябе няма штрафаў і іскаў. Я за паўгода атрымаў на рукі каля 630 рублёў. Астатняе пайшло на аплату адміністрацыйных штрафаў: за 9 жніўня, калі я нібыта абразіў супрацоўніка міліцыі, за фота з пікета са сцягам у сацыяльных сетках. Плюс штраф за спробу незаконнага пераходу мяжы.

Апроч працы, раз на месяц выпадае дзяжурства. Адзін раз на кухні (прыбіраеш яе, калідор, актавую залу, вуліцу). Наступны раз — у размяшчэнні, дзе мы спім. Навіны па дзяржТБ пастаянна глядзець трэба і прафілактычныя фільмы — у асноўным пра шкоду наркотыкаў, алкаголю, пра ролю сям'і.

Раней палітвязень распавядаў, што кожны месяц на аплату камуналкі на «хіміі» ідзе 50 рублёў. Гатуюць мужчыны самі, у краму водзяць раз на дзень пад наглядам.

— Некаторых у горад адпускаюць на 4 гадзіны. Самому без дазволу нельга выходзіць. Калі па дарозе з працы адхілішся ад маршруту, могуць палічыць за парушэнне, — заўважаў Дзмітрый.

У чэрвені, калі палітвязня не пусцілі на спатканне з жонкай, ён праглынуў кавалак металічнай лыжкі на знак пратэсту. За гэта Дзмітрыя змясцілі ў штрафны ізалятар.

**"Наша ніва"**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

"ЗАЧЫСТКА"

## ЛІКВІДАЦЫЯ ВІЦЕБСКАЙ "ПРАСТОРЫ"

**Ад 14 ліпеня 2021 году ўлады распачалі ліквідацыю культурна-асветніцкай установы «Цэнтр урбаністычных праектаў і ініцыятыў «Прастора». Гэтае грамадскае аб'яднанне было зарэгістраванае ў якасці юрыдычнай асобы ў студзені 2016 году ў Віцебскім раёне. Называецца і прычына закрыцця ўстановы: «Неажыццяўленне камерцыйнай арганізацыяй прадпрымальніцкай дзейнасці на працягу дваццаці чатырох месяцаў запар».**

За больш пяцігадовы перыяд свайго існавання «Прастора» ператварылася ў вядучае грамадскае аб'яднанне Віцебску, якое прадуктыўна працавала ў сферы ўрбаністыкі. Нагадаем хаця б пра праект «Устойлівае гарадское кіраванне: практыкі партнёрства». Ён быў накіраваны на аб'яднанне намаганняў гарадскога ўпраўлення і экспертных арганізацый, прадстаўнікоў рабочай групы ініцыятывы «Пагадненне мэраў у Віцебску» і іншых зацікаўленых супольнасцяў.

Да таго ж гэты праект быў зарэгістраваны ў Дэпартаменце па гуманітарнай дзейнасці Упраўлення справамі Прэзідэнта РБ, і яму было прысвоена пасведчанне ад 24.11.2020 №13-08 / 155.

Магчыма, прычынай ліквідацыі «Прасторы» стала тое, што партнёрам у праекце было германскае Таварыства па міжнародным супрацоўніцтве, а фінансаваў яго, у межах падтрымкі Беларусі, Дортмундскі міжнародны адукацыйны цэнтр па даручэнні Федэральнага міністэрства эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця.

«Мы застаемся супольнасцю экспертаў і журналістаў, арт-куратараў і дызайнераў, урбаністаў і архітэктараў, якія змяняюць культурныя і прасторавыя ландшафты гарадоў Беларусі!» - напісалі віцебскія ўрбаністы.

**Лявон Яфрэменка**

"ДАЖЫНКІ"-2021

## ПРЫРОДНЫ ГАЗ ВЫРАТУЕ ЯЗВІНА?

**У Шуміліншчыну ў каторы раз прыбыла дэлегацыя чыноўнікаў з вобласці. Як вядома, яны кантралююць ход работ, рыспешваюць мясцовае начальства для як мага хутчэйшай здачы аб'ктаў, якія ў стане рэканструкцыі.**

Аднак на гэты раз начальства наведала і вёску. Менавіта тут, у вёсцы Язвіна Шумілінскага раёна адбылася адбылася ўрачыстая цырымонія пуску прыроднага газу з удзелам кіраўніцтва вобласці.

Безумоўна, з'яўленне прыроднага газу адкрывае шырокія перспектывы для развіцця глыбінкі, таму што застаецца самым зручным у выкарыстанні і недарагім энерганосьбітаў. Паводле кіраўніка Віцебшчыны Мікалая Шарстнёва, "пуск прыроднага газу стане для вёскі Язвіна адпраўной кропкай для маштабнага развіцця".

Як вядома, да 2010 года дзейнічала Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця вёскі, затым – ўстойлівага развіцця сельскай мясцовасці, сёння «Камфортнае жыллё і спрыяльнае асяроддзе». Апошняя прадугледжвае будаўніцтва падводзяць газаправодаў да аграгарадкоў і вёсак.

І тут адным з лідэраў у гэтай працы з'яўляецца УП «Віцебскаблгаз».

У сваю чаргу старшыня Шумілінскага райвыканкама Віктар Гутараў адзначыў, што дзякуючы падтрымцы аблвыканкама, "з'явіўся прыродны газ, адкрывае вялікія магчымасці для вёскі. Цяпер мы будзем надаваць больш пільную ўвагу яе развіццю, прыцягваць інвестараў. Бо вёска Язвіна – гэта асаблівае месца для раёна, яго візітная картка, на якую звяртаюць увагу госці, якія прыязджаюць з боку Віцебска." Дарэчы, У Шумілінскім раёне працягласць газавых сетак звыш 190 км. Прыродны газ падведзены ў 11 сельскіх населеных пунктаў, у тым ліку 5 з 8 аграгарадкоў.

І сапраўды, вёска Язвіна знаходзіцца паблізу райцэнтра Шуміліна, каля транспартных шляхоў, каля

***(працяг на стар. 2)***

"ДАЖЫНКІ"-2021

(пачатак на стр. 1)

яе праходзіць чыгунка і аўтадарога Віцебск-Полацк. Тут дагэтуль пражывае дзесьці чатыры сотні вяскоўцаў. Аднак, нягледзячы на ўсе ранейшыя праграмы адраджэння вёскі – за апошнія гады амаль уся сацыяльная інфраструктура сяла Язвіна прыйшла ў незваротны заняпад. Наш карэспандэнт ужо зрабіў пра гэта рэпартаж пад назвай "Вёска Язвіна: зачыненыя сацыяльныя аб'екты, разбітыя дарогі і... чарвякі ў сельсавеце.", які размешчаны на сайце SHUMILINA.BY.

Тутэйшы люд добра ведае, што там былі зачыненыя ўсе сацыяльныя аб'екты і сучасныя зручнасці для камфортнага жыцця. Эканамічны крызіс, які негатыўна адбіўся на дабрабыце большасці шумілінцаў, стаў як для жыхароў Язвіна, так і іншых вёсак раёна сапраўдным катастрофай. Сельскія жыхары, бадай што, як ніхто іншы, трапілі ў закладнікі безграшоўя і чарговай урбанізацыі. Пасля аб'яднання калгасаў і закрыцця амаль усіх сацыяльна-культурных аб'ектаў людзі збягаюць у гарады і за межы краіны, каб зарабіць сабе на хлеб.

Праўда, Мікалай Шарстнёў падкрэсліў, развіцця вёскі нельга дасягнуць імгненна – нават тых, што знаходзяцца каля ажыўленых трас.

І каб яны не паміралі, а квітнелі, трэба зрабіць усё, каб тут заставалася моладзь, у прыватнасці, ствараць працоўныя месцы з годнай зарплатай і развіваць сацыяльную сферу. Таму мясковае кіраўніцтва спадзяецца, што пуск газу стане для Язвіна адпраўной кропкай для маштабнага развіцця ў найбліжэйшай будучыні.

**Алесь Шумскі**

КУЛЬТУРА

# ТВОРЧАЯ СУСТРЭЧА З СКУЛЬПТАРАМ

**У Шуміліне ў гісторыка-краязнаўчым музеі прайшла сустрэча з вядомым скульптарам Беларусі Ігарам Голубевым. Скульптар з'яўляецца аўтарам шматлікіх помнікаў, якія стаяць як у Беларусі, так і ў суседняй Расеі.**

Майстар стварыў самыя вядомыя бронзавыя помнікі: Уладзіміру Караткевічу ў Оршы, Язэпу Драздовічу ў Траецкім прадмесці ў Мінску, Еўфрасінні Полацкай у Полацку і Архангелу Міхаілу на плошчы Незалежнасці.

Прынамсі, у нашым мястэчку гэта першая сустрэча ў Шуміліне з творцай-майстрам такога ўзроўню.

Перадусім у сценах Шумілінскага гісторыка-краязнаўчага музея адбывалася шмат розных выставачных праектаў, звязаных у першую чаргу з жывапісам. А на сённяшні дзень работнікі музею плануюць наладзіць шэраг сустрэч з майстрамі, рукамі якіх таксама пабачылі свет і творы мастацтва, але іншага накірунку. Найперш ёсць жаданне даць зацікаўленым людзям магчымасць паслухаць майстра, даведацца з першых вуснаў пра нараджэнне ідэй і складанасці творчага працэсу, адчуць іх духоўны свет.

У ходзе сустрэчы скульптар Ігар Уладзіміравіч Голубеў распавёў пра свой творчы шлях, як прыйшоў у гэту прафесію, пра тое, як нараджаліся яго першыя творы. Даў грунтоўны адказ на пытанне: чаму галоўнымі героямі яго твораў сталіся беларускія гуманісты-асветнікі, то бок – асобы, звязаныя з культурай і гісторыяй Беларусі?

Таксама прысутным цікава было даведацца, які нялёгкі шлях ляжыць ад нараджэння ідэі помніка да яго рэалізацыі, якую сілу мае думка.

Першай сур'ёзнай работай Ігара Уладзіміравіча быў помнік Язэпу Драздовічу ў 1993 годзе.

Гэта аказалася дыпломная работа, якая стала візітнай карткай будучага скульптара.

Але самай любімай і дарагой свайму сэрцу работай майстар лічыць помнік Архангелу Міхаілу. Па-першае, тут надарыўся добры мецэнат.

Па-другое, была магчымасць працаваць не ў рамках заказу, а напоўніцу прадэманстраваць творчасць і палёт асабістай фантазіі. Паводле самога майстра, у яго работах яскрава бачны вынік пражытага жыцця», таму ён вельмі ўдзячны лёсу за прадастаўленую магчымасць плённа працаваць, рэалізоўваючы многія задумы і пакідаючы нашчадкам багатую спадчыну.

Асабліва яркім быў расповед, прысвечаны стварэнню помніка Еўфрасінні Полацкай у Полацку. Дэманстрацыя архіўнага фільма перанесла гледачоў у 20-гадовую даўніну падчас урачыстага адкрыцця помніка.

Дарэчы, скульптар Голубеў кансультаваўся ў самога Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, да таго ж атрымаў ад яго блаславенне на святую працу.

**Алесь Прыбярэжны**

КРЫМІНАЛ

# ТУРМА ЗА РУЖЖО

**За самаробнае ружжо вяскоўцу пагражае турма.**

Жыхар Мікалаева вырабіў і захоўваў самаробнае ружжо, якое зараджаецца серай ад запалак. Экспертыза вызначыла, што з такога ружжа можна страляць, і яно з'яўляецца зброяй.

На падставе гэтага была ўзбуджана крымінальная справа па ч. 2 арт. 295 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў».

«Вынаходнік» падобнага самапалу можа пазбавіцца волі на тэрмін да сямі год.

**Сяржук Крупскі паводле матэрыялаў УУС**

# УХІЛЕННЕ АД АБАВЯЗКАЎ

**Абавязаная жанчына з вёскі Мікіціха неаднаразова ўхілялася ад утрымання сваіх дзяцей.**

Нядаўна супраць жыхаркі аграгарадка Мікіціха была ўзбуджана крымінальная справа па ч. 3 арт. 174 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Ухіленне бацькоў ад утрымання дзяцей або ад кампенсацыі расходаў, затрачаных дзяржавай на ўтрыманне дзяцей, якія знаходзяцца ці знаходзіліся на дзяржаўным забеспячэнні».

Будучы абавязанай асобай, яна ўмудрылася здзейсніць яшчэ болей за 10 прагулаў. Пры гэтым варта дадаць, што раней жанчына ўжо прыцягвалася да крымінальнай адказнасці менавіта па гэтым артыкуле.

ЗДАРЭННІ

# АВАРЫЯ

**У Шуміліна сутыкнуліся матацыкл і легкавік.**

10 жніўня прыблізна гадзіны дня на скрыжаванні вуліц Кірава і Ленінскай у Шуміліна адбылося ДТЗ. 19-гадовы малады чалавек, знаходзячыся за рулём матацыкла Honda, не прадаставіў перавагі кіроўцу Seat Toledo, які рухаўся па галоўнай дарозе.

У выніку сутыкнення матацыкліст атрымаў траўмы і шпіталізаваны.

# НЕЦВЯРОЗЫ НА МОТАБЛОКУ

Па пад'ездзе да вёскі Засіннікі даішнікамі быў затрыманы мясцовы жыхар, які кіраваў мотаблокам. Прычым мужчына знаходзіўся ў нецвярозым стане (наяўнасць этылавага спірту пры выдыху склала 0,8 праміле). Цяпер яму пагражае штраф 200 БВ і пазбаўленне права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі, на пяць год. На мотаблок зараз накладзены арышт.

**Сяржук Крупскі па матэрыялам ДАІ**

ЮБІЛЕЙ

# ВЕТСТАНЦЫІ Ў ШУМІЛІНЕ – 55 ГАДОЎ

**Жывёлагадоўля ў Шумілінскім раёне паспяхова развіваецца. У гэтым ёсць значны ўклад спецыялістаў раённай ветэрынарнай станцыі, якая адзначае свой 55-гадовы юбілей.**

Ўдумлівы і рацыянальны падыход да справы – галоўная з рысаў начальніка райветстанцыяй Ларысы Ціханенка. Кіраўнік перакананая: калі ў калектыве кожны да вырашэння задач падыходзіць абдумана, спаўна аддае свой вопыт і веды справе, поспех гарантаваны.

Як адзначыў у сваім віншаванні першы намеснік старшыні – начальнік упраўлення па сельскай гаспадарцы і харчаванню райвыканкама Руслан Яскевіч, у сельскагаспадарчай вытворчасці важная роля адведзена спецыялістам ветэрынарнай службы, бо ад іх суладнай працы напрамую залежаць надоі і прывагі. Настаўленьне было адно: замацаваўшы дасягнутае, працягваць дамагацца больш важкіх вынікаў у сельхоздеятельности. Руслан Валер'евіч пажадаў калектыву поспехаў у нялёгкай працы, удачы і дабрабыту.

Калектыў райветстанцыяй налічвае 37 чалавек. Дзверы кабінета галоўнага ветурача раёна заўсёды адкрыты для наведвальнікаў. І кожнага Ларыса Ісаеўна ўважліва выслухае, дасць савет, падтрымае ў цяжкую хвіліну. Яе прафесіяналізм і кампетэнтнасць, чуласць і добразычлівасць да падпарадкаваных шануе не толькі калектыў, але і мясцовая ўлада.

Нядзіўна, што Ларыса Ціханенка – дэпутат раённага Савета дэпутатаў. Жанчына заўсёды ідзе насустрач людзям, дапамагае ў вырашэнні праблем, клапоціцца аб камфортнага жыцця землякоў на вёсцы.

Аб'ёмы работ для калектыву дастаткова вялікія, і працуюць тут пераважна жанчыны, але ўмелая арганізацыя дзейнасці ўсіх падраздзяленняў ветстанцыі дазваляе паспяхова спраўляцца з пастаўленымі задачамі. Тут не жартачкі – сачыць за захаваннем эпізаатычнай сітуацыі ў рэгіёне, не дапусціць узнікнення небяспечных захворванняў, асабліва агульных для чалавека і жывёл. Спецыялісты займаюцца кантролем якасці выраблёнай прадукцыі ў сельскагаспадарчых прадпрыемствах, аказваюць дапамогу ў лячэнні жывёл. І не толькі.

У райветстанцыяй ёсць дыягнастычная лабараторыя, якая, на жаль, на сённяшні дзень патрабуе перааснашчэння. Аднак калі нейкі выгляд аналізаў зрабіць на месцы немагчыма, то яго правяраюць у абласной лабараторыі, з якой наладжаны цесны кантакт. Каб павысіць узровень работы, у бліжэйшы час плануюць набыць УГД-сканер, які дазволіць ставіць больш дакладныя дыягназы.

"Калектыў ветэрынарнай службы – надзейны сплаў маладосці і досведу, і я заўсёды магу разлічваць на сваю каманду, – кажа кіраўнік.

Загадам ад 12 ліпеня 1966 года Віцебскага абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі зацверджана ўтварэнне Шумілінскай раённай ветэрынарнай станцыі. Да гэтага часу абслугоўванне жывёл праводзілася спецыялістамі Шумілінскай ўчастковай лячэбніцы, якая знаходзілася ў падпарадкаванні Віцебскай раённай ветэрынарнай станцыі. У структуру ветэрынарнай службы ўваходзіла некалькі участковых лякарань. Асноўным транспартным сродкам былі коні. І толькі ў 80-я гады (у гэты час участковыя лячэбніцы, акрамя Шумілінскай, былі ліквідаваныя) у райветстанцыяй з'явіліся аўтамабілі.

**vitvesti.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# У ПОШУКАХ АЎТАРАЎ ПРАЕКТАЎ «АНТЫ-РАСІЯ» І «АНТЫ-БЕЛАРУСЬ»

**У публічнай прасторы Саюзнай дзяржавы неалагізм «анты-Расія» быў рэанімаваны Пуціным у артыкуле «Аб гістарычным адзінстве рускіх і ўкраінцаў», апублікаваным 12 ліпеня на сайце Крамля.**




На аўтарства, аднак, маюцца прэтэндэнты. У прыватнасці, пісьменнік-фантаст Леў Вяршынін, які цяпер жыве ў Іспаніі. Яму і дадзім слова: «Я быў першы, хто ўвёў гэтае паняцце ў мову блогаў. Так атрымалася, што я прыдумаў „анты-Расію", але не магу паставіць на яе капірайт, магу толькі напісаць у сваім ЖЖ: „А я ж казаў!" Хто я такі на фоне Пуціна? Проста апошнія 17–18 гадоў я кармлю сваю сям'ю тым, што нядрэнна адгадваю, што потым будзе адбывацца».

Дзякуй за прызнанне. Вось бы мне здольнасць ведаць, што ў прыкупе! Жыў бы ў Сочы, ці хаця б у Іспаніі.

У артыкуле Пуціна я налічыў восем згадак лінгвістычнага ноу-хаў! Абмяжуюся першым: «Крок за крокам Украіну ўцягвалі ў небяспечную геапалітычную гульню,мэтаякой—ператварыць Украіну ў бар'ер паміж Еўропай і Расіяй, у плацдарм супраць Расіі. Непазбежна надышоў час, калі канцэпцыя „Украіна — не Расія" ўжо не задавальняла. Спатрэбілася „анты-Расія", з чым мы ніколі не змірымся».

Узяты ў двукоссе фразеалагізм «Украіна — не Расія» адсылае да бестсэлера экс-прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. У Беларусі кніга з аналагічнай назвай пакуль не напісаная, але развагаў на тэму выкарыстання рэспублікі-партызанкі ў якасці плацдарма супраць Расіі хапае.

Дзе карані гэтакай прапагандысцкай актыўнасці? Першае тлумачэнне ляжыць на паверхні. Вобраз ворага з'яўляецца той печкай, ад якой скачуць дзяржаўныя прапагандысты. Інакш выкідаць пераканаўчыя каленцы не атрымліваецца.

Але ўяўленне пра Захад як пра ворага, а пра Беларусь — як пра яго патэнцыйную ахвяру мае патрэбу ў тлумачэнні. Беларусы — людзі на балоце, а беларускія балоты — лёгкія Еўропы. Каштоўнасць балот у стагоддзе масавай заклапочанасці экалогіяй бесперапынна ўзрастае. Аднак здольнасць нашых балот забяспечваць Еўропу кіслародам ад жадання беларусаў абараняць свой суверэнітэт не залежыць. Які ж тады сэнс бразгаць зброяй на нашых межах?

Ой, не кажы, кума... А падлётны час? За намі Масква! Гэтыя, з NATO, — яны ж спяць і бачаць, як прысунуць свае пускавыя ўстаноўкі бліжэй да Белакаменнай.

Расія не з'яўляецца Беларуссю ў тым сэнсе, што яе багацці балотамі не абмяжоўваюцца. Ахвочых жа паквапіцца на прыродныя багацці Расіі, якія ўтрымліваюць усю табліцу Мендзялеева, на думку прапагандыстаў, хапае….

**Праблема схопленая дакладна**

Слова старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Андрэю Савіных: «Ёсць такі жарт. Пытаюцца: што такое вышэйшая адукацыя ў ЗША? Даецца смешны адказ: гэта рускі прафесар, які навучае кітайскіх студэнтаў матэматыцы.

Захад высмоктвае таленты з перыферыі — прапаноўвае ім больш высокі ўзровень жыцця, больш высокія даходы, фактычна не ствараючы ўласнага інтэлектуальнага прадукту. Гэта парадокс, але ў ЗША больш за 50% патэнтаў выдаецца асобам, якія прыехалі ў ЗША менш за 5 гадоў таму. Гэта сусветны трэнд».

На жаль, запярэчыць мне няма чаго. Праблема схопленая дакладна. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. І не толькі чалавек. Калі на прадметным століку мікраскопа злучыць дзве кроплі з амёбамі водным мастком і асвятліць адну з іх, то праз некаторы час амёбы з асветленай кроплі перамесцяцца ў прыцемненую.

Чаму яны гэта робяць? Інтэрнэт падказвае адказ: таму што валодаюць раздражняльнасцю. Гэтай жа характэрыстыкай надзелены многія беларусы. У першую чаргу, маладыя і адукаваныя.

Калі беларускую мадэль злучыць транспартным калідорам з краінамі — удзельніцамі Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР), то і без дадатковага асвятлення пачнецца працэс перамяшчэння разумных і адукаваных.

Нічога новага і незвычайнага ў гэтым няма. Глабальныя міграцыйныя працэсы назіраліся на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Цікаўным прапаную пачытаць пра «Вялікае перасяленне народаў».

**Табліцай Мендзялеева прафесараў не ўтрымаць**

Рэакцыю на раздражненне — не ліквідаваць і не аслабіць. Раздражняльнасць — фундаментальная ўласцівасць жывога. Але магчымы іншы шлях, і палягае ён у ліквідацыі крыніцы раздражнення. Свой рэцэпт ёсць і ў дэпутата Савіных: «Калі мы ствараем свой уласны макрарэгіён і сваю ўласную эканамічную прастору, то мы гэты трэнд можам спыніць. Я думаю, што гэта рашэнне».

Наколькі прапанова дэпутата рэалістычная? Скіруем свой позірк на постсавецкую прастору. Толькі 3 з 15 постсавецкіх рэспублік набылі сяброўства ў Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця — Літва, Эстонія і Латвія. Па ВУП (па парытэце пакупніцкай здольнасці) у доларах ЗША ўсе яны прыкметна апярэдзілі Расію і Беларусь: 38824, 37745, 31509 vs. 27930 і 20187.

Самая багатая з балтыйскай тройцы — Літва, што не перашкодзіла ёй за перыяд з 1990 па 2020 год страціць чвэрць насельніцтва. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Ад савецкага «дна» не так проста адштурхнуцца і падняцца да сярэдняга еўрапейскага ўзроўню.

Табліцай Мендзялеева рускіх прафесараў не ўтрымаць, а кітайскіх студэнтаў да сябе не прывабіць. Аналагічная гісторыі Вялікай дзяржавы ад часоў Пятра І, якая ці тое ўстае, ці тое ўжо ўстала з каленяў. Тут самы час працытаваць прафесійнага гісторыка і вядомага дзеяча расійскай рэвалюцыі Паўла Мілюкова: «Коштам спусташэння Пётр зрабіў Расію вялікай дзяржавай».

* * *

*Можна па-рознаму ставіцца да мудрацоў, якія разважаюць наконт праектаў «анты-Расія» і «анты-Беларусь», але гэтыя праекты існуюць. Аднак пошукі іх аўтараў будуць марнымі — праекты, як у нас прыняць гаварыць, ідуць «ад жыцця».*

*Свет імкліва пераходзіць ад індустрыяльнай эканомікі (індустрыяльнага грамадства) да постіндустрыяльнай эканомікі (постіндустрыяльнага грамадства). А з нязменнай уладай такога пераходу не здзейсніць.*

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.by**

ГАДАВІНА ПРАТЭСТАЎ

# «КОШТ УТРЫМАНЬНЯ ЎЛАДЫ ЛУКАШЭНКІ АКАЗАЎСЯ ВЕЛЬМІ ВЫСОКІМ..»

**Беларусь адзначае гадавіну выбараў, супаўшую з пачаткам масавых пратэстаў. За гэты год мы даведаліся пра Беларусь значна больш, чым за многія папярэднія гады. І пра грамадзтва, і пра кіруючы рэжым.**

Цяпер, магчыма, яшчэ рана падсумоўваць вынікі, вялікае бачыцца на адлегласьці. Але вельмі верагодна, нашы нашчадкі назавуць 2020 год галоўным годам найноўшай беларускай гісторыі, а можа і больш працяглага гістарычнага пэрыяду. Таму што ўпяршыню беларускі народ намерыўся стаць суб'ектам палітыкі, узяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларусь уступіла ў свой «восевы час». На менскіх вуліцах лета і восені 2020 года можна было пачуць «голас гісторыі».

Прапаную некалькі важных высноваў.

Была пацьверджана вядомая ісьціна, што гісторыя развіваецца не лінейна, што рэвалюцыя, якая не перамагла, абарочваецца рэакцыяй.

Сацыяльна-палітычны працэс, пачаты летам 2020 года, ня скончаны. Хутчэй, ён пастаўлены на паўзу. Палітычны крызіс ня вырашаны, ён загнаны ў глыб, ператвараецца ў пэрманэнтны. Гэты крызіс немагчыма пераадолець у рамках існага палітычнага рэжыму, бо ён ня можа быць вырашаны сілавымі мэтадамі, а іншых спосабаў улады не прызнаюць.

Беларускі социюм ніколі не будзе ранейшым. Вярнуцца ва ўмоўны травень 2020 года ўжо немагчыма. Гэта тычыцца як улады, так і грамадзтва.

Аўтарытарны рэжым, каб выжыць, па неабходнасьці павінен стаць больш жорсткім і недэмакратычным, чым раней. Ён вымушаны ўвесь час знаходзіцца ў ваяўнічай позе ў адносінах да ўнутраных і вонкавых супернікаў. Улада сканцэнтравана выключна на вырашэньні праблем выжываньня, знаходзіцца ў пастаянным напружаньні і таму няздольная вырашаць іншыя праблемы і актуальныя задачы, якія паўстаюць перад краінай.

Мінулы год пераканаўча паказаў, што беларуская сацыяльная мадэль, створаная Аляксандрам Лукашэнкам чвэрць стагоддзя таму, зьяўляецца тупіковай, яна вычарпала свой рэсурс і стала тормазам разьвіцьця краіны. Гэтая мадэль не здольная адаптавацца да ўмоў, што зьмяніліся, а прызначана толькі выключна да ўтрыманьня ўлады за кошт кансэрвацыі сацыяльнага статус-кво.

Пацьвердзілася здагадка, што беларускі рэжым абсалютна рыгідны, нездатны да перамен, пашырэньня сваёй сацыяльнай базы. У момант крызісу рэжым перастаў быць папулісцкім, адмовіўшыся ад спробаў шукаць паразуменьне з грамадзтвам. Выявілася яго арганічная няздольнасьць да пазытыўнага парадку дня. Ва ўлады няма ніякага наратыву будучыні і нават няма разуменьня яго неабходнасьці.

Рашэньне ўсіх праблем рэжым бачыць выключна ў прымусовай легітымізацыі, грубым гвалце ў дачыненьні да ўсіх нязгодных. У прыватнасьці, улады імкнуцца вярнуць манаполію на СМІ з дапамогай зьнішчэньня незалежных мэдыяў, выштурхоўваньня іх у рэзэрвацыю тэлеграм-каналаў. Адбываецца рутынізацыя гвалту, ён становіцца спосабам існаваньня рэжыму.

Адбываецца паскораны працэс дэсакралізацыі ўлады. Большасьць насельніцтва ўспрымае дзяржаву, уключыўшую на поўную магутнасьць мэханізм рэпрэсій, як небясьпеку, пагрозу для грамадзтва. Паводле сацыялягічнага онлайн-апытаньня Нямецкага Цэнтру ўсходнееўрапейскіх і міжнародных дасьледаваньняў, гвалтам сілавікоў былі закранутыя самі ці праз сям'ю, ці знаёмых да 20% грамадзян. Калі сюды прыплюсаваць палітычных эмігрантаў, якія ратуюцца ад рэпрэсій за мяжой, то колькасьць пацярпелых істотна ўзрасьце.

Абвастраецца ідэалягічная барацьба, канфлікт каштоўнасьцяў. Улады робяць масіраваныя спробы спыніць фармаваньне новай (несавецкай) беларускай ідэнтычнасьці, абвяшчаючы яе нацысцкай. За выкарыстаньне бел-чырвона-белага сьцяга ўводзіцца крымінальнае пакараньне.

Кошт утрыманьня ўлады Лукашэнкі ўжо аказаўся вельмі высокім для Беларусі і працягвае расьці, перш за ўсё, за кошт узмацненьня эканамічных санкцый і міжнароднай ізаляцыі.

У супрацьстаяньні рэжыму з пратэстамі адбыўся частковы дэфолт дзяржаўных функцый. Гэта значыць, дзяржаўныя ўстановы перасталі выконваць свае абавязкі.

Фактычна разбураецца зьнешняя палітыка Беларусі, краіна апынулася ў глухой ізаляцыі, губляе сваю міжнародную суб'ектнасьць.

Цалкам разбурана прававая сыстэма і інстытуты правасудзьдзя, без чаго немагчыма існаваньне паўнавартаснай сучаснай дзяржавы.

…Беларускае грамадзтва атрымала цяжкую псыхалягічную траўму на шмат гадоў.

Галоўным фактарам гэтага ў чымсьці экзыстэнцыяльнага

***(працяг на стар. 4)***

## ГАДАВІНА ПРАТЭСТАЎ

*(пачатак на стар. 3)*

расколу соцыюму зьяўляецца постаць Аляксандра Лукашэнкі.

Важны ўрок 2020 года для апанэнтаў рэжыму палягае ў тым, што народ мабілізуецца на актыўныя дзелу палітыцы, у прыватнасьці, на пратэст, дзякуючы пазытыўнай праграме (галасаваньне за альтэрнатыўнага кандыдата ў рамках легальнай працэдуры), а не байкоту. Гэта важна ў пляне вызначэньня стратэгіі прыхільнікаў пераменаў у ходзе маючых адбыцца электаральных кампаній.

…Але за год сытуацыя моцна зьмянілася. Захад падтрымлівае імкненьне беларускага грамадзтва да дэмакратычных пераменаў, Расея ж аказвае актыўную дапамогу кіруючаму рэжыму. Беларускі канфлікт набыў геапалітычнае вымярэньне проста ў сілу лёгікі палітычнага працэсу. Сустрэча Сьвятланы Ціханоўскай з Джо Байдэнам стала завяршальнай кропкай, што сымбалізуе гэтую зьмену.

Беларускі палітычны крызіс ператвараецца ў крызіс рэгіянальны. Неўрэгуляванасьць унутрыбеларускай праблемы і нават яе абвастрэньне выліваецца за межы Беларусі, спараджае праблему рэгіянальнай і ўвогуле міжнароднай бясьпекі. Гэта даўно ўжо ня толькі гуманітарнае пытаньне адной краіны. Беларусь, якая з 2014 па 2020 год прэзэнтавала сябе донарам рэгіянальнай і эўрапейскай бясьпекі, на вачах ператвараецца ў фактар росту міжнароднай напружанасьці. Прычым спружына канфрантацыі з Захадам закручваецца ўсё мацней.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**
**svaboda.azureedge.net**

## АЛІМПІЯДА

# ПОЧЕМУ ОЛИМПИАДА СТАЛА ЛИЧНЫМ ПОРАЖЕНИЕМ…

**От стабильности к деградации**

В суверенной спортивной истории можно выделить два периода. В 1996-2008 гг. Беларусь стабильно привозила с летних Олимпиад 15±2 медали. Но тогда награды добывали атлеты, вышедшие на орбиту еще в допрезидентский период.

На Играх в Лондоне уже должен был проявиться результат инвестиций в спорт, сделанных при Александре Лукашенко. Он лично планировал знаковый рывок.

Но вместо грандиозного успеха случилась «большая неожиданность». На Олимпиаде-2012 белорусские спортсмены завоевали всего 10 медалей.

Это можно было бы счесть случайностью, но нет. Именно с Лондона обозначилась тенденция на деградацию. В Рио-2016 наград оказалось уже 9. Причем единственное золото удалось получить в прыжках на батуте — не самом высококонкурентном и популярном у публики виде спорта.

К Токио готовились уже без громогласного озвучивания амбициозных медальных планов. Тем не менее, стояла задача добыть не менее 20 мест на пьедесталах почета. На практике вышло в три раза меньше. С наградами высшей пробы была бы совсем беда, но опять же спас батут.

Второе золото Беларусь получила бы со 100%-ной вероятностью, если бы в олимпийской программе присутствовал такой «вид спорта», как «скандалы». Попытка досрочно отправить домой бегунью Кристину Тимановскую привела к тому, что она сбежала на Запад. Эта история стала топ-новостью в главных мировых медиа, с большим отрывом затмив все прочие «тарарамы», случившиеся в Токио. Причем главное ЧП Игр устроили на ровном месте — благодаря цепной реакции некомпетентности чиновников разных уровней.

В итоговом медальном зачете Беларусь заняла место в середине пятого десятка, пропустив вперед такие «спортивные державы», как Уганда, Эквадор, Косово... Косово!!! И, кстати, многие постсоветские государства: Узбекистан, Грузию, нашу южную соседку, у которой, по версии пропаганды, всё разваливается. «Хотите как в Украине?» (рэд. Украіна атрымала 19 медалёў)

**Кто виноват и что дальше?**

…Основной разбор полетов, впрочем, еще впереди. В «предвкушении» грандиозного шухера кое-кто подал в отставку, не дожидаясь окончания Олимпиады, — как, например, руководитель федерации тенниса Сергей Тетерин, суливший две золотых медали в своем виде.

Как правило, Александр Лукашенко спрашивает за провалы на конкретных направлениях с их руководителей. Но... он сам возглавлял Национальный олимпийский комитет на протяжении без малого четверти века. А когда вынужден был все-таки оставить этот пост, передал его по наследству — старшему сыну.

Виктор Лукашенко получил эту должность, в том числе исходя из расчета, что токийская Олимпиада станет триумфом семейного клана. Однако эти ожидания оказались обмануты, причем жесточайше.

Конечно, стрелки можно перевести на министра спорта. Но, объективно говоря, с Сергея Ковальчука спрос невелик. Всё-таки он по специальности артиллерист с опытом работы в президентской службе безопасности. Главное спортивное достижение Ковальчука — третье место на чемпионате по бильярду среди сотрудников и ветеранов органов безопасности стран СНГ. Так что, спрашивать нужно с того, кто назначил человека с близким к нулевому управленческим опытом сразу на пост министра. А это опять же Александр Лукашенко.

Конечно, по итогам разбора полетов будет дан ряд «ценных указаний», что нужно сделать, чтобы Беларусь на следующих Олимпиадах показала всем кузькину мать. Но, если это не удалось сделать за все предыдущие годы правления, то нет никаких оснований полагать, что под тем же «мудрым руководством» удастся переломить ход событий в будущем. 27 лет — достаточный срок, чтобы продемонстрировать уровень своей …компетентности.

Более того, на горизонте маячит перспектива очередного провала. Менее, чем через полгода, должна начаться зимняя Олимпиада в Пекине. И весьма вероятным выглядит сценарий, в котором по итогам этих Игр в графе «медали» у Беларуси впервые будет значиться 0.

**"Філін"**
**gazetaby.info**

## «БОЛЬШОЙ РАЗГОВОР»

# ВЛАСТЬ УПОРНО НЕ ХОЧЕТ ВИДЕТЬ ПРИЧИН БЕЛАРУСКОГО КРИЗИСА

**Во время «Большого разговора с президентом», прошедшего в Минске 9 августа, в годовщину президентских выборов, Александр Лукашенко охотно рассуждал о многом. Но не было разговора о главном — причинах того жестокого общественно-политического кризиса, который охватил Беларусь после выборов-2020.**

Точнее, была нарисована далекая от реальности схема. Лукашенко отметил, что «мы тогда провели подготовку к выборам и сами выборы в условиях тотальной гласности и демократизации политической жизни», в то время как другая сторона готовилась, мол, «к перевороту».

**Почему тогда люди вышли на улицы**

На деле с самого начала прошлогодней избирательной кампании власти, почувствовав политический подъем населения, избрали как никогда жесткий сценарий. Попали за решетку главные потенциальные конкуренты Лукашенко — Сергей Тихановский, Виктор Бабарико, а также опытные организаторы уличных акций из числа старой оппозиции — Николай Статкевич, Павел Северинец.

Избирательные комиссии вертикаль сформировала поголовно из своих людей. Возможности независимых наблюдателей практически свели к нулю под предлогом ковида. Подсчет голосов велся абсолютно непрозрачно.

Власти мешали проводить агитационную кампанию Светлане Тихановской, которая тем не менее стремительно набирала популярность. И в итоге, судя, в частности, по данным гражданской инициативы «Голос», она набрала гораздо больше голосов, чем написал ей Центризбирком.

Именно возмущение официальными цифрами, чувство украденных голосов вывело на улицы белорусов, голосовавших за политическую альтернативу. Если глубже, причина была в том, что общество переросло законсервировавшуюся власть, захотело перемен.

Да, в первые дни после выборов были локальные стычки с силовиками, но в целом августовские марши носили мирный, иногда даже карнавальный характер. Не было попыток штурмовать административные здания, стратегические объекты.

**Власть демонизирует политических оппонентов**

Лукашенко же назвал участников протестов «очумелыми», обрисовал их как агрессивную толпу, которая была нацелена на «блицкриг». При этом заявил, что «их на пике было (а есть методика подсчета) 46 700 — в Минске. Собрали со всей страны».

Он отрицал жестокость со стороны силовиков, назвал фейком свидетельства избиений, издевательств в печально известном изоляторе на Окрестина (разве что, мол, «получили» те, кто «ринулся бить ментов»).

При этом он дал понять, что в случае атаки на государственные объекты по манифестантам мог быть открыт огонь. Это штрих к дискуссии, правильным ли был мирный характер протестов. В ином случае могло бы пролиться море крови. Шансов победить вооруженных силовиков не было.

Речь Лукашенко изобиловала ругательствами в адрес политических противников, слово «мерзавец» было одним из самых частых. Совершенно очевидно, что руководство режима не собирается идти на диалог с другой частью общества, условно говоря — сторонниками перемен. Курс на их подавление продолжится.

При этом власть стремится демонизировать оппонентов: мол, это сплошь ворюги (Бабарико), бандиты и т.п. Это делается для того, чтобы оправдать самые жесткие репрессии.

Пока конца им не видно. В частности, Лукашенко открыто заявил, что продолжится уничтожение независимых медиа: «Мы зачистим эту дрянь. И зачистили. И будем чистить».

В таком же ключе он высказался о молодежи, уезжающей учиться в Литву, Польшу: «Коль пошли на зачистку, то будем чистить всё». Мол, если уехали на промывку мозгов, то пусть там и остаются.

Лукашенко дал понять, что не поспешит освобождать политических заключенных. Готов рассмотреть лишь возможность помиловать тех, за кого поручится Юрий Воскресенский, составивший список из ста человек. Надо понимать, речь идет о готовых раскаяться, как раскаялся сам Воскресенский.

Тема новой конституции была затронута в общих чертах. Похоже на то, что Лукашенко пока сам не до конца определился с ее конкретикой и своим местом в новой политической системе. Впрочем, вряд ли она окажется принципиально новой.

Вопрос об уходе Лукашенко, новых выборах остался не проясненным. Он заметил, что «не надо гадать, когда уйдет Лукашенко и так далее. Очень скоро». При этом дал понять, что следующим президентом станет кто-то из его окружения, что у противников нынешнего политического курса шансов не будет.…

**Кризис придавлен, но не разрешен**

Это пиар-мероприятие, которое Лукашенко провел в наступательном ключе (в частности безжалостно контратаковал корреспондентов западных СМИ), было призвано прежде всего вдохновить, консолидировать его сторонников, а также перетянуть на свою сторону электоральное болото.

Твердых противников режима «Большой разговор», естественно, не переубедил. Но такой задачи и не было. Эти люди, по замыслу, должны только бояться.

Главный месседж состоял в том, что система устояла под натиском «очумелых», которых дергали за ниточки западные кукловоды, что она крепка и незыблема. И даже когда Лукашенко уйдет, президентом станет кто-то из преданных ему людей. То есть политическая альтернатива не пройдет никогда. В этом плане несогласной части белорусов навязывается ощущение фатализма.

Беспрецедентное насилие действительно позволяет режиму решить на какое-то время проблему удержания власти, контроля над обществом. Внутриполитический кризис придавлен бетонной плитой репрессивной политики, однако никак не разрешен. Людей можно запугать, но мозги им не переделаешь.

При этом «Большой разговор» еще раз показал, что у нынешней власти нет никакой вразумительной программы развития, никакого образа будущего. Все рассуждения крутились вокруг наведения порядка на советский манер, а то и пожестче.

Правящая верхушка и ее пропаганда стремятся навязать обществу свою повестку дня, заглушить, перечеркнуть те вопросы, которые год назад вывели множество белорусов на улицу: о справедливых выборах, смене власти, развитии страны.

Но эти вопросы никуда не денутся.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**naviny.online**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 15.08.2021 у 16.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.